Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

26 снежня 1997 года - 1 студзеня 1998 года

# Рэгіянальная газета

№52 (140)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## Бывай, год 1997, добры дзень, год 1998!

*Дарагі наш чытач, мы ўдзячныя табе за тое, што ты застаўся верны газеце на працягу гэтага года. Як для цябе, так і для нас ён прынесіў і смутныя, і радасныя дні. Хапала ўсяго. Але для таго мы і жывем, каб жыць і рабіць наш заўтрашні дзень лепшым.*

Гэты год быў для "Рэгіянальнай газеты" годам, калі на яе старонкі прыйшлі новыя рубрыкі, у газету— новыя [illegible]ы. Газета, як мы і абя[illegible] патаўсцела". І надалей, [illegible]ючыся вернымі табе, [illegible]ач, мы будзем імкнуцца, каб кожная пятніца была самым жаданым днём, днём, калі ў тваю паштовую скрыню кладзецца свежы нумар "Рэгіяналкі", газеты для цябе, пра твой горад, мястэчка або вёску, газету пра тваіх знаёмых і блізкіх, газету пра тваё жыццё.

Менавіта таму мы пастаянна звяртаемся і будзем звяртацца да набалелых праблемаў. Менавіта таму ў самы апошні час з'явіліся новыя рубрыкі "Базарны дзень", "Справы грашовыя", "Аўта-мота", "Імя", а з гэтага нумара пачынаюць друкавацца астралагічныя прагнозы. Увогуле, мы пастараемся не быць газетай цяжкой і незразумелай для цябе. З Новым Годам! Няхай ён прынясе ў твой дом упэўненасць у заўтрашнім дні. Да новых сустрэч!

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".*

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Наташа: Смаргонь, 17 год, рост 166, вага 54; вечарамі сустракаецца з сябрамі, слухае музыку, калі няма настрою - застаецца дома адна.*
*Фота Васіля КАШКЕЛЯ.*

Шаноўныя чытачы, публікацыяй гэтага здымка конкурс "Фотамадэль рэгіёна" заканчваецца. Пераможцу 1997 года мы назавем у першых нумарах Новага года. Нагадаем, у чытачоў на першым месцы пакуль што **Таня** (№ 49), далей ідуць **Каця** (№ 42) і **Света** (№ 46). Чытачы ўзнагародзяць, хутчэй за ўсё, кагосьці з іх.

У архіве рэдакцыі засталіся работы фотамастакоў і аматарскія фотакарткі, якія мы не паспелі надрукаваць. Але дзяўчаты могуць не засмучацца - напярэдадні новы конкурс. Будучыя ўдзельніцы, дасылайце свае здымкі, каб не спазніцца.

## Шарамет прапанаваў зачытаць прысуд

*У аўторак і сераду прадоўжыўся судовы працэс над журналістамі ОРТ. Спецыяльны карэспандэнт "РГ" Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ перадае з АШМЯНАЎ.*

Нягледзячы на прадастаўленыя па ўсёй форме дакументы, суд адхіліў хадайніцтвы аб новых грамадскіх абаронцаў. "Аргументам" стала і без таго вялікая іх колькасць. У аўторак суддзя пачаў зачытваць абвінавачванне, што скончылася толькі ў сераду.

*Заканчэнне на 7-й стар.*

## Цяпло ў тваім доме

### Каго ў нас святы не радуюць

*Пасля публікацыі ў папярэднім нумары газеты матэрыяла аб забеспячэнні рэгіёна цяплом, у рэдакцыю прыйшлі два лісты з Вілейкі. Адзін - калектыўны, ад жыхароў дома №72 па вул. Чапаева, другі - ад вілейчанкі Валянціны Купраенкі.*

*"Жывем у доме з 1981 года,—* **пішуць Н. Шаўчук, М. Герасімовіч, Е. Місун, В. Сцяпанава, Е. Лапко, Лашутка, Э. Данільчык, А. Міхальчонак, Р. Котава, І. Кізік, К. Сергель, М. Сапронава, А. Віткоўская.** *- І вось ужо чацверты год, як пачаліся нашыя беды. У першым пад'ездзе ў 15 кватэрах тэмпература не паднімаецца вышэй за 8-10 градусаў, а на першым паверсе і таго менш.*

*Мы неаднаразова звярталіся ў ЖЭУ, гарвыканком, да дэпутата. Была створаная камісія, якая ўстанавіла сярэднюю тэмпературу ў доме ў 16-18 градусаў. У сапраўднасці яна была 8-12 градусаў. Абяцалі мінулым летам займацца нашым домам, але ніхто нічога не рабіў.*

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Як наша слова адгукнецца

### Газета ў 1997 годзе

*МАЛАДЗЕЧНА.* Каб палілі кіёск разам з прадаўцом, такога яшчэ не было. "Не забівайце, - гублюючы прытомнасць, маліла дзяўчына", - гараджане падтрымалі сям'ю грашыма, прадуктамі, спачуваннямі.

"Рэкет залізвае раны" - аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю выяўлена 12 крымінальных груп, якія "працавалі" ў горадзе.

"Непажаданае дзіця: яго месца на сметніку?" - менавіта так і зрабіла 20-гадовая сялянка.

*ВІЛЕЙКА.* Наталля Лабоха заваподала прызам для падпісчыкаў - тэлевізарам "Верас".

"Вілейчане змаглі пратрымацца зіму" - інтэрв'ю са старшынёй гарвыканкома Пятром Юдо.

*СМАРГОНЬ.* "Асаблівасці нацыянальнага палявання" - наш карэспандэнт прыцягнуты судздзячкам у суд.

"Аб'яднанне выканаўчых структур, хутчэй за ўсё, палітыка. І мая адстаўка таксама", - лічыць былы мэр Ілья Рак (эксклюзіўнае інтэрв'ю для "РГ").

*МЯДЗЕЛ.* "Залаты дэсант на вёску Урлікі" - дзялавыя людзі са сталіцы без падстаў хацелі спагнаць з "РГ" за гэты артыкул аж 5 мільярдаў рублёў.

Супрацоўнік мясцовай газеты "Нарачанская зара" Аляксандр Быкаў у марафоне на 30 км стаў трэцім у сваёй узроставай групе.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Працяг тэмы

### І ў "розным" бывае галоўнае

*МАЛАДЗЕЧНА. Як мы і прагназавалі ў №49, на сесіі гарадскога Савета, што прайшла 18 снежня, дэпутатамі было пастаўлена пытанне аб сумяшчэнні Валерыем Альшэўскім пасады старшыні Савета і працы на пасадзе загадчыка аддзела гарвыканкома.*

Але да яго дэпутаты звярнуліся толькі ў "розным", пасля разгляду пытанняў павесткі дня - аб рабоце вузлоў паштовай і электрасувязі, аб сацыяльнай абароне насельніцтва і аб стане барацьбы са злачыннасцю. Пакуль рашэнне не прынята. Гарвыканком сумесна са старшынямі камісій гарсавета разгледзе магчымыя кандыдатуры на вакантнае месца. Відома, што старшыня Савета напісаў заяву аб вызваленні крэсла кіраўніка прадстаўнічага органа.

Сумяшчэнне В. Альшэўскім пасады старшыні Савета і загадчыка аддзела выканкома прама супярэчыць Закону аб мясцовым самакіраванні, дзе ў артыкуле 11 сказана: **сумяшчэнне абавязкаў старшыні Савета з любой іншай пасадай не дапускаецца.** На самой справе такое парушэнне дапушчана яшчэ ў трох Саветах такога ўзроўню ў Мінскай вобласці. Але гэта не можа быць апраўданнем для маладзечанцаў, пра што і гаварылі дэпутаты.

Што да кандыдатуры пераемніка Альшэўскага на пасадзе старшыні, то цалкам верагодна, што ім стане **Наталля Бялкова,** галоўны ўрач цэнтра здароўя. Кандыдатура Наталлі Бялковай ужо была ў свой час альтэрнатывай Валерыю Альшэўскаму пры выбарах старшыні Савета. Але канчаткова лёс пасады кіраўніка гарсавета можа стаць вядомым толькі ў наступным годзе.

*Аддзел інфармацыі.*

## Гандляры-- смірна!

### С. Лінг Маладзечнам задаволены

*Напярэдадні каляднай ночы прэм'ер Беларусі Сяргей Лінг быў у Маладзечне. Галоўная мэта візіту-- праверка перадсвяточнага гандлю.*

Галава Савета Міністраў прайшоўся па гандлёвых залах універсамаў "Юбілейны", "Чыгуначны", у раёне завода парашковай металургіі, фірменнага магазіна мясакамбіната, гандлёвага дома "На Нямізе". С. Лінг убачаным застаўся задаволены.

У гэты самы дзень, сераду, праваахоўнымі органамі была праведзена чарговая праверка работы калгаснага рынку.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адным абзацам

### Каму свята, каму бальніца...

**ВАЛОЖЫН.** Закрытым галасаваннем у школе-інтэрнаце выбіраліся 10 лепшых вучняў з 3-8 класаў для паездкі на ёлку ў сталіцу. Дзятва радуецца дэмакратыі ў сваёй школе.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

**АШМЯНЫ.** Пасля маразоў тры чалавекі трапілі ў райбальніцу. Абышлося без хірургічнага ўмяшальніцтва.

*Аня СУСЛАВА.*

**ВІЛЕЙКА.** З абмарожаннем кісцяў рук І-ІІ ступені ў раённую бальніцу звярнуўся адзін чалавек.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Дні калядныя

# Бетлеемскі агонь міру

*Чарговы раз на Беларусь трапляе Бетлеемскі агонь міру. Гэтую цудоўную традыцыю распачалі аўстрыйскія скаўты, якія запалілі агонь у Бетлееме (Віфлееме)-- месцы нараджэння Хрыста-- і самалётам прывозяць у Аўстрыю, адкуль трапляе ў іншыя краіны.*

Ужо другі раз ў гэтай акцыі бярэ ўдзел Аб'яднанне Беларускіх Скаўтаў. Сёлета ў Гродне Агонь міру з рук скаўтаў Польшчы прымалі харцэры Польскага харцэрства на Беларусі, скаўты АБС з маладзечанскай харугвы імя Льва Сапегі і харугвы Зялёная дубрава імя Тадэвуша Касцюшкі з Мядзельшчыны. Бетлеемскі Агонь знаходзіцца ў Маладзечне і ў Мядзельскім раёне і можа прадоўжыць свой шлях па Беларусі і далей ў Расію.

Агонь з Бетлеема нясе мір між народамі. Дзецям, моладзі і дарослым, а таксама ўсім прыхільнікам беларускіх скаўтаў самыя сардэчныя пажаданні, здаровых і спакойных Святога Божага Нараджэння ў коле сям'і і шчаслівага Новага Года жадае Аб'яднанне Беларускіх Скаўтаў.

*Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ, старшыня Рады АБС.*

## Хроніка парафій

# Новыя прызначэнні

*Дэкрэтам арцыбіскупа Казіміра Свёнтака ксёндз-дэкан Маладзечна Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі прызначаны дэканам у касцёл Божага Цела ў Нясвіжы.*

Функцыі пробашча нядаўна пабудаванага касцёла Святога Юзафа пераняў ад яго ксёндз **Рыгор Гуральскі**. Ксёндз **Зыгмунт Абартух** з Касцяневічаў прызначаны дэканам на месца пана Эдмунда Даўгіловіча-Навіцкага дэканам Вілейскага дэканата. У Вілейцы ж ад нядаўняга часу, як вядома, пробашчам ёсць ксёндз **Ежы Касабуцкі.**

*Мікола ГАЙДУК.*

## Базарны дзень

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чацвер на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады):

| Прадукт | 17.12.97 | 25.12.97 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 62 тыс. | **62 тыс.** |
| Сасіскі, 1 кг | 74 тыс. | **71,4 тыс.** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36 тыс. | **36 тыс.** |
| Селядзец салёны, 1 кг | 38,5 тыс. | **38,7 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 20 тыс. | **19,5 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 20,5 тыс. | **20,5 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 26 тыс. | **24,9 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 50 тыс. | **49 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 26,5 тыс. | **26,5 тыс.** |
| Маянэз, 250 г | 10 тыс. | **14,5 тыс.** |
| Кава распушч. "Пеле", 100 г. | 50 тыс. | **44 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 20 тыс. | **20 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана 1 л | 25тыс. | **30 тыс.** |
| Масла 1 кг | 84 тыс. | **84 тыс.** |
| Тварог 1 кг | 30 тыс. | **30 тыс.** |
| Малако 1 л | 8 тыс. | **8 тыс.** |
| Бульба вядро | 55 тыс. | **55 тыс.** |
| Падарункі ад Дзеда Мароза: | | |
| Мандарыны 1 кг | 50 тыс. | **45 тыс.** |
| Бананы 1 кг | 26 тыс. | **26 тыс.** |
| Лімоны 1 кг | 58 тыс. | **55 тыс.** |
| Апельсіны 1 кг | 35 тыс. | **35 тыс.** |
| Арэхі грэцкія 1 кг | 55 тыс. | **55 тыс.** |
| Арэхі ачышчаныя 1 кг | 200 тыс. | **200 тыс.** |
| Хурма 1 кг | 38 тыс. | **40 тыс.** |
| Халва 1 кг | 70 тыс. | **70 тыс.** |
| Ківі 1 шт. | 10 тыс. | **10 тыс.** |
| Цукеркі шакаладныя 1 кг | 120 тыс. | **140 тыс.** |

Яблыку недзе было ўпасці на прадуктовым рынку ў святочныя дні. Маладзечанцаў і прыезджых апанаваў святочны "хапун", іх не спынялі ні доўгія чэргі, ні высокія цэны.

Як сустрэнеш Новы Год, так яго і правядзеш. Гэта датычыцца і нашага стала. Калі ён у ноч навагоддзя будзе багаты, то, напэўна, такім ён застанецца і ўвесь 1998 год.

*Аддзел інфармацыі.*

## Са старога альбома



Гэты здымак зроблены роўна шэсцьдзесят год таму- на святкаванні калядаў у Вілейскай польскай школе. Магчыма, нехта можа пазнаць сябе або сваіх таварышаў, расказаць пра іхнія лёсы. Адгукніцеся.

*Фота ласкава прадастаўлена Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеем.*

## Сектар спорту

# Скончылася маладзечанскае бязладдзе

*Галоўны трэнер ФК "Маладзечна" Ігар Бялоў атрымаў запрашэнне ўзначаліць сярэбранага прызёра чэмпіянату бабруйскую "Белшыну". Ён сказаў для прэсы: "...Настрой добры. Не верыцца, што засталося ў мінулым двухгадовае маладзечанскае бязладдзе, што можна будзе падымацца раніцой, не клапоцячыся пытаннем, якога футбаліста заўтра ў цябе вырвуць са складу".*

Дарэчы, падрабязны аналіз сезона, што прайшоў, чытайце ў "РГ" у студзені. А пакуль мы звязаліся з кіраўніцтвам маладзечанскага клуба і атрымалі такую інфармацыю.

Выконвае абавязкі галоўнага трэнера цяпер былы памочнік **Уладзімір Галубко**. Канчаткова ўсё вырашыцца да сярэдзіны студзеня. У бліжэйшыя дні адбудзецца агульны сход каманды, і адкрываць яго будзе не цяпер ужо былы гаспадар **Яўген Хвастовіч** (нагадаем, ён аднначасова прэзідэнт ЗАТ "Дынама" (Мінск), а старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч**, бо менавіта гарадскія ўлады будуць цяпер фінансаваць клуб. Усё пралічана, ёсць падтрымка аблвыканкома. Што ж, гэткая ўвага не можа не радаваць.

Канчаткова парываць з мінскім "Дынама" у кіраўніцтве нашага клуба не збіраюцца. Хацелася б, каб засталіся агульныя вучэбна-метадычныя планы, ішла адзіная работа на рынку футбалістаў.

Дарэчы, адбылося пасяджэнне выканкома федэрацыі футбола, дзе прынята некалькі важных рашэнняў. У прыватнасці, замест першай, другой і трэцяй ліг, цяпер каманды будуць гуляць у адпаведна вышэйшай, першай і другой, як некалі ў чэмпіянаце СССР.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Навіны

# Мова і Бог

*ВАЛОЖЫН. Каталіцкія свяшчэннікі раёна сустрэліся з работнікамі райвыканкома (па запрашэнні апошніх). Улады рэкамендавалі паступова пераводзіць богаслужэнне на беларускую мову.*

У адным з Івянецкіх касцёлаў яна часм гучыць. Пакуль невядома, як ксяндзы з Валожына, Івянца, Пяршаяў, Каменя, Багданава могуць гэта зрабіць. Бо настаяцелям каталіцкіх храмаў у большасці пад 70, амаль усе яны - грамадзяне Польшчы.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

# 100 мільёнаў на прадаўца

*СМАРГОНЬ. 4-мільярдны абарот штомесяц мае ўніверсальны магазін, што ў самым цэнтры горада. Гэта прыблізна па 100 мільёнаў на прадаўца.*

5 гадоў, як магазін выйшаў з сістэмы дзяржгандлю. Можа, таму ў магазіне заўсёды шмат пакупнікоў і, зразумела, грошай у касе.

Установа, якой кіруе **Таццяна Булыга**, адзначае 40 гадоў.

*Тарэса КУМІШЧА.*

# Без канкурэнцыі

*ВАЛОЖЫН. З новай прадукцыяй - ацыдафілінам - выйшаў на абласны харчовы рынак масласырзавод.*

Прадукт прадаецца і ў сталіцы. Ён больш карысны ў параўнанні з кефірам, а канкурэнтаў практычна няма. Штодня паўтоны разыходзіцца па магазінах.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Навагоднія прыгоды

**Псіхатэрапеўт Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Сяргей Цвірко:**

# Цвярозы Дзед Мароз



- Некалькі год таму ў брыгадзе хуткай псіхіятрычнай дапамогі я дзяжурыў у Навагоднюю ноч. Яшчэ да 24 гадзін медперсанал разышоўся па кабінетах, дзе ёсць тэлефоны,- віншаваць сваіх. Бо "хуткую" лінію ніколі не выкарыстоўваем у асабістых мэтах. Нехта прынес прыёмнік, і па ім слухалі віншаванні. Адразу пасля таго, як прабілі куранты, - выклік: прыязджайце, у пацыента, якога лечыце, ад гарэлкі нешта з сэрцам. Маўляў, "прыгубіў". Спыталіся прозвішча - і жахліва стала. Чалавеку нядаўна ампулу зашылі. Можа памерці. Прыехалі ў раён завода парашковай металургіі, падняліся ў кватэру. Дзверы адчыняе гаспадар, ён жа наш кліент, у касцюме Дзеда Мароза. Цвярозы. Святочны стол. Разам з жонкаю вырашыў такім чынам нам аддзячыць за тое, што выцягнулі з запою і далі яму "другое жыццё".

**Работнік Мінскага мэблевага цэнтра, былы "афганец" Аляксандр Вырва (Маладзечна).**

# Салдацкая каша ў японскім посудзе

- За 5 дзён да 1980 года ўвайшлі ў Афганістан. Батальён (я камандаваў узводам) атрымаў задачу ахоўваць палац Аміна. Размясціліся на грэбені гары ў гліняных доміках качэўнікаў. Кабул знаходзіцца на вышыні 1800 м. Тэмпература даходзіла да мінус 15. Ніякага святочнага настрою не адчувалі. Акрамя баявых задач, трэба было самім наладжваць быт. Спалі на саломе. Праўда, "абадралі" рэстаран Аміна - узялі японскі посуд. Навагодняя страва (звычайная каша) на ім выглядала не надта. У горадзе, унізе, былі мандарыны, кішмішаўка (гарэлка з вінаграда) 50-60 градусаў. Але, па-першае, не было грошай. Па-другое, было не да выпіўкі. На ўсё глядзелі вялікімі вачыма. Праверылі пасты. У 24 гадзіны пастралялі ў паветра, паглядзелі ў бок Радзімы. Было сумна.

**Работнік Валожынскага аддзялення Чырвонага Крыжа Васіль Стасіловіч.**

# "Касы" паблытаў

Летась 30 снежня з братам Паўлам хадзілі на зайца. Забілі двух, вярталіся дамоў. Калі пераходзілі па лёдзе раку, я паслізнуўся і праваліўся ў ваду па пояс. Хвіліну лаяўся, але раптам убачыў заечыя сляды. Патронаў ужо не было. Таму спачатку зайшлі за імі да знаёмага ў суседнюю вёску. А потым пайшлі па слядах. Кіламетры праз тры ўбачылі касога. Далейшае, як гавораць, справа тэхнікі. За дзень да Новага года мокрым на марозе ў агульнай складанасці я правёў 3 гадзіны. І па сённяшні дзень не магу зразумець, як не захварэў.

**Намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкома Аляксей Апановіч.**

# Сіла традыцыі



- У канцы 70-х я працаваў на ЗАСе майстрам, быў нежанаты. Новы год звычайна сустракаў у бацькоўскай хаце. І вось у другой палове дня чарговага 31 снежня я з сякерай у руках няспешна накіраваўся з Пагарэльшчыны Каранёўскага с/с у лес, па елку. Нягледзячы на 40-градусны мароз, доўга выбіраў прыгажуню. На плячы дацягнуў да хаты. Паставілі елку на падлогу і ... яна поўнасцю абсыпалася. Ці то ад маразоў, ці то майго з ёю абыходжання. У цемры другі раз пабег у лес. Наступную нес на выцягнутых руках, дыхаючы на яе. А на спіну павесіў "запцацкі" - яловыя лапкі на ўсялякі выпадак. За гадзіну да Новага года елку скончылі ўпрыгожваць. Прыйшлі госці. "Вялікаю крывёю" традыцыя была захаваная.

*Запісаў Васіль САВІЦКІ, рысункі Алега БАНЦАРАВА.*

